Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №3(98), люты, 2019г.

# АЛЯКСАНДР ІЛЬІНЕЦ: БУДЗЕМ РАБІЦЬ ВІЦЕБСК ЗЯЛЁНЫМ



Не сакрэт, што ўсе новыя мікрараёны Віцебска да гэтага часу застаюцца без зялёных насаджэнняў. З прыходам лета, асабліва калі суха і спякотна, па новых раёнах гуляе вецер разам з брудным пылам, смеццем і непрыемным пахам. Шматлікія звароты да ўладаў не даюць выніка – пусткі застаюцца голымі, дрэваў высажваецца мала, але і тыя, што высажваюцца, з цяжкасцю прыжываюцца без нагляду.

Сітуацыю з зялёнымі насаджэннямі на “Югах” узяліся выправіць мясцовыя жыхары, адзін з якіх, **Аляксандр Ільінец**, распавёў пра некаторыя планы па азеляненьню свайго раёна. “ Мы будзем рабіць усе магчымыя захады каб было высаджана як мага больш дрэваў, кустоў уздоўж вуліц Чкалава і Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, збіраем подпісы каб тая пустка паміж запраўкай “Белнафта” і СТА (пажадана два бакі вуліцы ад помніка да праспекта Чарняхоўскага) была засаджана дрэвамі, пракладзены вела і пешаходныя дарожкі”.

Па выніках сустрэчы актывістаў з начальнікам аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва гарвыканкама (галоўным архітэктарам горада Віцебска) **Ігарам Андрэевічам Кадушкам** стала зразумелым, навошта прымаўся Генплан Віцебска і вызначаліся зоны перспектыўнай забудовы. Склалася ўражанне, што гэты генплан прынялі адмыслова для таго, каб не чуць і не выконваць пажаданні жыхароў горада па паляпшэнню якасці жыцця.

Адзін з ініцыятараў збору подпісаў Аляксандр Ільінец і прапанаваў ідэю высадкі дрэваў на пустуючых тэрыторыях, пракладкі вела- і пешаходных дарожак, стварэння зонаў адпачынку для дзетак і сталых людзей, спартыўных пляцовак: “Мне не падабаецца, што маладыя маці з каляскамі гуляюць уздоўж загазаваных вуліц, дыхаючы выхлапнымі газамі аўто. Будзе лепш для малых дзетак гуляцца сярод зялёных насаджэнняў, адпачываць на лавачках, якія стаяць сярод зялёных дрэваў, велааматары будуць з большым імпэтам круціць педалі сваіх веласіпедаў па дарожках, пракладзеных сярод дрэваў”.

Ініцыятыва **#зялёныВіцебск** склалася з актыўных жыхароў Віцебска і раёна, якія прапануюць як мага хутчэй высадзіць дрэвы на ўсіх прыдатных пляцоўках горада. Але першая з мэтавых тэрыторыяў на вуліцы Воінаў-Інтэрнацыяналістаў аказалася зарэзерваванай для пабудовы грамадска-гандлёвага аб’екта і чакае свайго інвестара. А высаджваць дрэвы там немэтазгодна, таму, што інвестару прыйдзецца высадзіць у пяць разоў больш дрэваў на свабодных тэрыторыях пры забудове гэтага ўчастка. І як паведаміў галоўны архітэктар горада,, у гэтую вясну патрэбна высадзіць амаль ТЫСЯЧУ дрэваў, таму Ігар Андрэевіч параіў жыхарам горада звяртацца да домакіраўніцтваў з прапановамі паведаміць, дзе патрэбныя такія высадкі дрэваў, таксама дырэктары навучальных установаў горада могуць азеляняць сваю тэрыторыю з дапамогай супрацоўнікаў “Зеленгаса”.

Збор подпісаў за зялёны Віцебск працягваецца, наперадзе чакаюць сустрэчы з адказнымі асобамі па месцу знаходжання участакаў, якія прапануюцца для азелянення.

Падтрымлівая ініцыятыву актывістаў па павелічэнню зялёных зонаў Віцебска, стварэнню сеткі веладарожак, якія будуць праніцаць увесь горад, і злучэнне такіх дарожак з сеткай пешаходных і веладарожак у ваколіцах Віцебска, заклікаем жыхароў горада актыўна далучацца да ініцыятывы, звяртацца да супрацоўнікаў домакіраўніцтваў па месцу пражывання і патрабаваць высадкі дрэваў у вашых дварах і іншых пустуючых месцах. Далучайцеся да працы ініцыятывы “Зялёны Віцебск” праз сацыяльныя сеткі і кантакты актывістаў.

Разам зробім Віцебск зялёным!

Magistrat

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для контактаў:
**8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**

**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# РЫГОР КАСТУСЁЎ КРЫТЫКУЕ

3 лютага міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Аляксандр Церахаў** у праграме "Галоўны эфір" канала "Беларусь 1" распавёў аб чарговых "поспехах" беларускіх камунальнікаў у эканоміі фінансавых сродкаў за кошт выкарыстання мясцовых відаў паліва.

**Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў адгукнуўся крытычным блогавым допісам на сайце "Беларускія навіны", у якім тлумачыцца, чаму ўлады прымаюць новыя праграмы ў галіне ЖКГ, наўзамен праваленых старых праграмаў.**

Па словах Церахава, сабекошт 1 гігакалорыі цяпла, атрыманай ад спальвання прыроднага газу, складае 100 рублёў.

Выкарыстанне мясцовых відаў паліва, як было сказана ў эфіры, дазволіць атрымаць зніжэнне коштаў цеплазабеспячэння ў памерах ад 20% да 30%, а сабекошт 1 гігакалорыі ў перспектыве будзе складаць 70-80 рублёў.

Праслухаўшы ўважліва "прыгожую песню" Церахава, разбіраючысь у "нотах" жыллёва-камунальнай гаспадаркі, нецяжка заўважыць чарговы "плагіят" у словах і нотах міністра.

Яшчэ ў снежні 2009 года былі зацверджаны заданні па долі мясцовых паліўна-энэргетычных рэсурсаў у балансе кацельна-пячнога паліва на 2009-2012 гады. Адпаведнае рашэнне змяшчалася ў пастанове Савету міністраў № 1593.

Для Міністэрства ЖКГ было заданне павялічыць долю МВП з 31,7% у 2009 годзе да 50% у 2012-м.

Пастановай № 1593 была скасаваная дзеючая да той пары праграма па выкарыстанні МВП. Да 7 снежня 2009 году ў краіне існавала "Мэтавая праграма забеспячэння ў рэспубліцы ня менш 25% аб'ёма вытворчасці электра- і цеплаэнэргіі за кошт выкарыстання мясцовых відаў паліва і альтэрнатыўных крыніцаў энэргіі на пэрыяд да 2012 году".

З мэтай выканання мерапрыемстваў па павышэнні энэргаэфэктыўнасці і павышэнні энэргабяспекі краіны Рэспубліканскай праграмай мадэрнізацыі было прадугледжана на 2006-2010 гады фінансаванне ў памеры 5,2-5,8 млрд даляраў.

Чаму раптам, не завяршыўшы прынятую праграму, урад прымае новую пастанову, скасаваўшы ранейшыя праграмныя дакумэнты і запланаваныя мерапрыемствы, выкананне якіх прадугледжвала павышэнне эфэктыўнасці выкарыстання і паніжэнне сабекошту энэргіі?

А галоўная прычына тут адна — нягледзечы на агромністыя сродкі, затрачаныя з 2006 па 2009 гады, дадзеныя праграмы ў выніку былі проста праваленыя.

Неэфэктыўна ўкладзеныя сродкі ў сферы камунальнай гаспадаркі прывялі да павышэння сабекошту цеплаэнэргіі на многіх аб'ектах ЖКГ, што пацягнула за сабой і павелічэнне аплаты насельніцтвам расходаў за ацяпленне жылля і гарачае водазабеспячэнне.

Вось як выглядаў сабекошт рэалізаванай цеплавой энэргіі па ўсіх кацельнях Шклоўскага УКП "Жылкамгас". У 2007 годзе сабекошт адной гігакалорыі на прыродным газе склаў 144 365 рублёў (недэнамінаваных), а на дравяным паліве — 192 704 рублі. За першы квартал 2008 года — на прыродным газе — 152 586 рублёў, на дравяным паліве — 179 078 рублёў.

Адной з прычынаў неэфэктыўнасці выкарыстання мясцовых відаў паліва (МВП) стала недасканаласць абсталявання для гэтых мэтаў. Так, напрыклад, катлы КВР-0,5-95 з ручной загрузкай вытворчасці НВП "Белкатламаш" г. Бешанковічы па пашпартных дадзеных павінны былі мець каэфіцыент карыснага дзеяння (КПД) у памеры каля 87% (ня меней 83%). Але пры правядзенні выпрабаванняў у кацельных № 2 і № 3 шклоўскага УКП "Жылкамгас" ад 20 мая 2008 году, яго велічыня склала ад 43,1% да 49,4%.

На пачатку 2000-х гадоў НВП "Белкатламаш" у межах Рэспубліканскай праграмы па энэргазберажэнні з дзяржаўнага бюджэту атрымала мільёны даляраў на канструяванне і наладжванне вытворчасці катлоў дадзенай серыі. У выніку фінансавыя сродкі былі выкарыстаныя неэфэктыўна, аб чым сведчаць вышэй прыведзеныя лічбы. За 2004-2009 гады на прадпрыемствы ЖКГ краіны былі пастаўлены сотні катлоў тыпу КВР-0,5-95.

У маі 2008 года дадзеная інфармацыя аб "неэфектыўным" выкарыстанні бюджэтных сродкаў была даведзена Камітэту дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці (азнаёмлены першы намеснік старшыні камітэту Тарасаў А.С.). У маі 2009 года — ва упраўленне КДБ па Магілёўскай вобласьці (начальнік упраўлення Маслакоў В.А). У кастрычніку 2009 года – у Генеральную пракуратуру (генеральны пракурор Васілевіч Р.А.).

Але ні Камітэт дзяржкантролю, ні КДБ, ні Генеральная пракуратура ніякім чынам не адрэагавалі на дадзеныя факты.

Зараз няцяжка здагадацца, чым скончацца чарговыя патугі беларускіх камунальнікаў праз "пошук альтэрнатыўных відаў паліва" — шчапы і торфа, з мэтай паніжэння сабекошту цеплаэнэргіі. **Закончацца яны чарговым павышэннем тарыфаў для насельніцтва.**

"Беларускія навіны"

# НІЧОГА НЕ ЗЬМЯНІЛАСЬ

**Віцебскі гарвыканкам зьмяніў парадак правядзеньня масавых мерапрыемстваў.**

Гэта вынікае з адказу, які атрымаў на свой зварот да гарадзкіх уладаў праваабаронца **Леанід Сьвецік.**

У звароце праваабаронца прапанаваў унесьці зьмены ў мясцовы нарматыўны прававы акт, які рэгуляваў падрыхтоўку і правядзеньне масавых мерапрыемстваў у межах Віцебску. У прыватнасьці, выказаў прапанову павялічыць колькасьць дазволеных і прыдатных для правядзеньня масавых мерапрыемстваў месцаў, дадаўшы да трох існых новыя пляцоўкі.

Таксама прапанаваў скасаваць патрабаваньне, згодна зь якім заяўнікі, яшчэ да прыняцьця мясцовымі ўладамі рашэньня наконт правядзеньня мерапрыемства, былі абавязаныя заключаць дамовы на ахову грамадзкага парадку, прыбіраньне тэрыторыі і аказаньне мэдычнай дапамогі.

Улады паведамілі грамадзкаму актывісту, што 18 студзеня 2019 году Віцебскі гарвыканкам прыняў рашэньне № 56 "Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у рашэньне Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту ад 10 ліпеня 2009 г. №881".

**Дадзеным рашэньнем пункт аб неабходнасьці дамоваў на абслугоўваньне масавага мерапрыемства быў скасаваны.**

Сапраўды, згодна з унесенымі зьменамі, з рашэньня гарвыканкаму №881 ад 10 ліпеня 2009 году быў выключаны пункт тры. Якраз у ім раней вызначалася, што ў выпадках, калі мерапрыемства адбывалася без удзелу органаў дзяржаўнай улады, арганізатары мерапрыемства павінны былі прыкласьці да заявы аб правядзеньні мерапрыемства дамовы з УУС аблвыканкаму (альбо з аддзелам УС адміністрацыі раёну, на тэрыторыі якога меркавалася праводзіць мерапрыемства), з упраўленьнем аховы здароўя аблвыканкаму і прадпрыемствам "Віцебская ЖКГ".

Другая зьмена закранула п.4 вышэйзгаданага рашэньня. Гэты пункт дапоўнілі ўсяго адным словам – "паведамленьні". Цяпер гучыць так: "Устанавіць, што Віцебскі гарадзкі выканаўчы камітэт разглядае заявы (паведамленьні) аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў, калі масавае мерапрыемства мяркуецца праводзіць на тэрыторыі некалькіх раёнаў гораду Віцебску. Адміністрацыі раёнаў гораду Віцебску разглядаюць заявы аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў, калі масавае мерапрыемства мяркуецца праводзіць на тэрыторыі адпаведнага раёну гораду Віцебску".

Прапанова правабаронцы павялічыць колькасьць дазволеных месцаў для правядзеньня масавых мерапрыемстваў падтрымкі не атрымала.

"Пунктам 2 рашэньня гарвыканкаму ад 10 ліпеня 2009 году №881 "Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску" ў кожным раёне г Віцебску вызначанае пастаяннае месца правядзеньня масавых мерапрыемстваў у горадзе. Неабходнасьць зьменаў у частцы вызначэньня іншых месцаў для правядзеньня масавых мерапрыемстваў адсутнічае", – абазначыў пазыцыю ўладаў намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму **Віктар Глушын.**

"Зьмены рашэньня мясцовых уладаў адносна арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў, якіх чакалі і дамагаліся віцебскія праваабаронцы і грамадзкія актывісты, адбыліся. Гэта абнадзейвае і надае пэўнага аптымізму тым грамадзянам, якія зацікаўленыя ў ажыцьцяўленьні права на публічнае выказваньне сваіх палітычных поглядаў і грамадзянскай пазыцыі. Як будуць працаваць гэтыя, на першы погляд, лібэральныя папраўкі ў рэчаіснасьці – пабачым ужо неўзабаве", – камэнтуе зьмены мясцовага прававога акту праваабаронца Леанід Сьвецік.

Лявон Яфрэменка

# "НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ – ГЭТА…" У ВІЦЕБСКУ НАПІСАЛІ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ

**Больш за 70 віцяблян у Міжнародны дзень матчынай мовы напісалі агульнанацыянальную дыктоўку. У якасьці тэксту для дыктоўкі сёлета выбралі ўрывак зь вядомага эсэ Уладзімера Арлова "Незалежнасьць – гэта…"**

Тэкст дыктоўкі чытаў дацэнт ВДУ імя Машэрава і старшыня абласной арганізацыі "Таварыства беларускай мовы" (ТБМ) **Юрась Бабіч**. У прадмове ён зазначыў, што Дзень роднай мовы – гэта "дзень своеасаблівага яднаньня, калі ўсе разам мы можам далучыцца да вялікага беларускага слова".

"І гэта вельмі важна. Бо гэта своеасаблівы сымбалічны жэст, які падкрэсьлівае нашую неабыякавасьць, нашую любоў да роднага слова, гісторыі нашай вялікай дзяржавы, да вялікай яе гісторыі", – сказаў старшыня абласной арганізацыі ТБМ.

Агульнанацыянальная дыктоўка на Дзень роднай мовы праводзілася ў Віцебску ў 12-ы раз. Па традыцыі апошніх гадоў яе ладзілі ў Віцебскай абласной бібліятэцы.

Удзел у дыктоўцы ўзяла больш за 70 жыхароў Віцебску (летась было каля 50) – студэнты, дарослыя, пэнсіянэры. Прадстаўнікоў мясцовай улады ў зале мы не заўважылі.

Разам з усімі дыктоўку пісалі вядомы віцебскі дысыдэнт **Барыс Хамайда**, паэтка **Людміла Сіманёнак**, паэт-сатырык **Міхась Мірановіч**, старшыня абласнога аддзяленьня СБП **Анастасія Лазебная**, актывісты **Андрусь Кешанюк і Тацяна Севярынец**, вядоўца курсаў "Мова Нанова" **Тацяна Дубоўская** ды іншыя.

Эсэ "Незалежнасьць – гэта…" Уладзімер Арлоў напісаў у 1990г., але з кожным годам гэты твор набывае актуальнасьці. Сам Уладзімер Арлоў пазьней казаў пра свой знакаміты нарыс: "Я напісаў эсэ літаральна за нейкую гадзіну. Усё, што я выклаў на паперы, тады насілася ў паветры. Гэта быў зрэз думак і мараў тагачасных незалежнікаў. Гэтыя мары, безумоўна, шмат у чым былі наіўныя, але разам з тым і плённыя. Яны настройвалі тых людзей на адну хвалю. Я памятаю, як я чытаў гэтае эсэ ў адной зь перадач Беларускага тэлебачаньня і за кулісамі заплакалі жанчыны: рэдактарка, памочніца рэжысэра, дзяўчаты з грымёркі… І потым, калі я сышоў са студыі, адна зь іх спыталася: "Няўжо ўсё гэта будзе?" І я так упэўнена сказаў: "Абавязкова будзе!"

Уласна дыктоўцы папярэднічала літаратурная частка, падчас якой віцебскія паэты і студэнты чыталі вершы, выступіў фальклёрны калектыў пэдагагічнага факультэту ВДУ імя Машэрава "Вясёлка".

Паэтка Людміла Сіманёнак выказала аднак засмучэньне з нагоды навіны, якая прыйшла з ВДУ імя Машэрава. Там 21 лютага цалкам легальна і ўрачыста ўшаноўвалі ў якасьці роднай… расейскую мову.

Зьміцер Міраш

# ВЯРНІЦЕ ДВОРНІКАЎ!

Каго не сустракаю гэтай зімою, у размове абавязкова закраналі тэму прыборкі дамавых тэрыторыяў. Дворнікаў няма, двары не прыбіраюцца, смеццем заваленыя пляцоўкі каля смеццевых бакаў, выпалы сьнег не прыбіраецца, а застывае на дарожках, прытаптаны пешаходамі, праехаць на дзіцячай калясцы ці з дзіцёнкам на санках немагчыма – кароткі змест размоваў пра непрыборку ва дварах гэтай зімой.

Чаму так здарылася, што гадамі працаваўшая сістэма прыборкі тэрыторыяў не стала працаваць? Віною ўсяму жаданне выдаткаваць менш грошай з гарадзкога бюджэта на прыборку тэрыторыяў і эксперымент з тэндэрам на прыборку дамавых пляцовак. Выйграў гэтае спаборніцтва той, хто нібыта згадзіўся прыбіраць нашыя двары за меньшыя грошы – "Зеленгас". Дворнікаў домакіраўніцтвы звольнілі, але адразу працаўладкавалі ў "Зеленгас", а майстроў, якія кіравалі працэсам прыборкі і кантралявалі якасьць працы дворнікаў узяць на працу не пажадалі, бо трэба ашчаджаць дзяржаўныя (лічы народныя) грошы. Зараз маем тое, што заўсёды атрымліваецца ва ўладаў. "Хацелі як лучшэ, а палучылась як всягда". І хадзілі жыхары Віцебска па калена ў снезе ўсю зіму, добра прыйдзе вясна, сьнег растане, але хто будзе прыбіраць смецце, што не прыбіралась цэлую зіму: акуркі, пакецікі, непрыбранае лісьце, розны бруд ды сабачыя какашкі? Няўжо на суботнік пагоняць тых самых жыхароў горада на дармавыя працы? Цікавая атрымліваецца эканомія грошаў, нияк і назваць такую сістэму адразу не атрымаецца. Можа прыйшоў час луканамізма? А даведацца з адкрытых крыніцаў пра гарадскі бюджэт, пра колькасць грошаў на прыборку тэрыторыі не атрымліваецца: інфармацыя схавана так надзейна, што толькі нейкі спец агент, можа сам сэр Джэймс Бонд зможа дапамагчы?

# СТОП – "ТАБАКЕРКА"!

**Пад пэтыцыяй супраць усталяваньня на прыпынках грамадзкага транспарту ў Віцебску шапікаў "Табакерка" падпісаліся каля дзьвюх тысяч віцяблян. Праз некалькі дзён электронны зварот будзе накіраваны ў Віцебскі гарвыканкам.**

"Прыпынкі не павінны быць месцам продажу цыгарэтаў і тытунёвых вырабаў, бо на прыпынках грамадзкага транспарту прысутнічаюць усе катэгорыі грамадзян – ад пажылых людзей да дзяцей дашкольнага ўзросту і школьнікаў. А кіёскі, у якіх прадаецца тытунь, прапагандуюць нездаровы лад жыцьця", – гаворыцца ў пэтыцыі.

Зьвяртаючыся да гарадзкіх уладаў, аўтары пэтыцыі апэлююць артыкулам 41 Закону "Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні" і нядаўнім Дэкрэтам №2 "Аб дзяржаўным рэгуляваньні вытворчасьці, абароту і спажываньня тытунёвай сыравіны і тытунёвых вырабаў" (ад 24 студзеня 2019 году).

Згодна з Дэкрэтам №2, паленьне на прыпыначных пунктах цяпер пад забаронай. Усталяваньне шапікаў па продажы цыгарэт на віцебскіх прыпынках цалкам супярэчыць гэтаму пункту прэзыдэнцкага дэкрэту.

Як мяркуюць аўтары звароту, кіёскі "Табакерка" будуць, такім чынам, служыць прамой рэклямай цыгарэтаў і паленьня.

Пэтыцыя аб забароне "Табакерак" стала бадай што рэкардсмэнам па колькасьці подпісаў і шырыні розгаласу ў Віцебску за апошнія часы.

У Віцебску зараз знаходзіцца каля 100 павільёнаў "Табакеркі", а ў 2019-м годзе іх колькасьць дасягне 180. Усталяваньнем шапікаў у Віцебску і вобласьці займаецца філіял "Віцебск-тытунь СЗАТ "Энэрга-Оіл". Кампаніяй "Энэрга-Оіл" валодае бізнэсовец **Аляксей Алексін**, блізкі да атачэньня прэзыдэнта.

"Клопат пра здароўе" з боку так званай улады – чыстая крывадушнасьць. А наогул, пра сваё здароўе, у першую чаргу, мусіць клапаціцца сам чалавек, калі ён мае розум", – напісаў у камэнтары пад пэтыцыяй адзін з карыстальнікаў.

Зьміцер Міраш, "Віцебская вясна"

# НА ПАРЛАМЕНТСКИХ ВЫБОРАХ ОППОЗИЦИЯ ВОЗЬМЕТ НА ТОТАЛЬНЫЙ КОНТРОЛЬ 18 ОКРУГОВ

**Восемь оппозиционных организаций проведут кампанию наблюдения «Право выбора» на предстоящих парламентских выборах.**

Как заявили представители этих организаций подписано соглашение о совместном проведении мобилизационной кампании для активного наблюдения на предстоящих выборах. Для наблюдения планируется выдвинуть около 1,5 тысячи человек.

Участники кампании намерены выдвинуть кандидатов в депутаты Палаты представителей своих партий и организаций. На 18-ти округах, где будут баллотироваться оппозиционные кандидаты, и будет организовано совместное наблюдение.

«Наши представители уже сейчас работают по содействию решения местных проблем, а также мобилизации жителей районов для участия в наблюдении за выбоорами, — сказал председатель БСДП **Игорь Борисов**. — Важная задача кампании «Право выбора» — организовать наблюдение не только силами партийных активистов, но и привлечь к совместной работе новых, далеких от политики людей».

Политики предполагают, что парламентские выборы могут быть назначены в конце текущего года, поэтому старт кампании наблюдения с начала февраля они не считают преждевременным.

«Мы ответственно заявляем, что демократические силы готовы объединиться для совместной борьбы за восстановление демократических принципов, за право белорусов избирать, контролировать и изменять свою власть», — заявил председатель Партии БНФ **Григорий Костусев**.

«Люди ждут от нас лидерства и помощи в том, чтобы их жизнь становилась лучше. И мы делаем для этого конкретные дела по всей стране. Это единственный путь, чтобы переубедить людей, что свободные выборы нужны не партиям, а простым гражданам», — добавила сопредседатель оргкомитета БХД О**льга Ковалькова**.

В ближайшие два года в Беларуси пройдут президентские и парламентские выборы. Согласно законодательству, выборы в Палату представителей должны пройти не позднее 10 сентября 2020 года, президента — не позднее 30 августа 2020-го. В связи с этим не исключено, что одна из избирательных кампаний состоится в 2019 году.

Сергей КОРОЛЕВИЧ